# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 124


* * *

Для душы ёсць дом умоўны; —
гай і лес, поле і луг.
Ў кожнай дробінцы прыроды
Засакрэчан нейкі ключ.

Ўзорных красак-летуценняў
У вянок мне не сабраць.
Спіць баюкаўшы пад снегам
Беларуская вясна.

І чаромхавая квецень
Сніцца ціхаю парой,
І разволле з звонкім смехам,
І з напевам салаўёў.

Ул. Гайдук

* * *

**Мы адны сярод ніў без дарогі**
**прытуліўшыся моўчкі ідзём.**
**Сонца золатам сцеле пад ногі,**
**вецер лёгка кранае крылом.**

**Жыта ціха выструньвае штосьці.**
**І цымбаляць у такт жаўрукі.**
**І кланяецца ў ногі калоссе.**
**І смяюцца куколь, васількі.**

**Так нам добра з сабою бясконца!**
**Колькі ў сэрцы цяпла! Колькі ласкі!**
**Аб каханні гаворыць нам: сонца,**
**вецер, жыта і птушкі, і краскі.**

Алесь Свісёк

ЕЖЫ ПЛЮТОВІЧ

З польскай пераклаў Мікалай Гайдук




спалоханыя ластаўкі як стужка дыму
гарадоў палаючых на рубяжы сну
той шолах
або стук кроплі дажджу аб змярцвелую гладзь вады
дно мякка пяском засланае
па загаду раніца ўстане
кветкі дрыжаць у гарачцы што ёй ты прычына
і трываеш ад захаплення лягчэйшая і ад думкі лягчэйшая
не пераступай цені вярбы што вартуе вяртанняў
ужо дом той не вернецца
ні сабака што бег на спатканне
і моўчкі брыў следам
агарод толькі застаўся
застыўшыя кветкі ў бязвольнай вадзе
такая ціш і чалавека ні ценю

## ◆ АГАРОД ◆

**Ішлося з хаты проста ў агарод,**
**Ў класічны буш вырастаючых жаданняў,**
**У сонечны снабізм, ілюзію свабоды,**
**Ў постаць трагічную і самазваную.**

**У руіны зелені, ў кварталы беднаты**
**Чырвананосай морквы, рэдзькі горкай,**
**Дзе ў паўзмроку водгукаў інтымных**
**Ірваў я радасць з горыччу аднолькава.**

**Абрыдлы плот схіліўся, як вазніца,**
**Наставіўшы каўнер імху на злосны вецер,**
**Няма дарог тут, і нельга нікому зблудзіцца**
**Ці выскачыць з нябачных часу сецяў.**

**Маё жыццё, Мікола, — зелля гэтага ўздым —**
**Няўложана, без градак і не модна,**
**Дні замяняюцца ў калючыя кусты,**
**А ружы не знайсці — ніводнай.**

І. Чыквін






Нядаўна таму ў вядомы павет, у вядомае лясніцтва накіравалі новага ляснічага. Ваколіца прыгожая. Навокал лясы. Сярод лясоў сям-там вёскі параскіданыя. Новы ляснічы — хлапец малады, нядаўна закончыў школу, быў захоплены. Усё яму тут падабалася. Як чалавек абавязковы, ён адразу пачаў знаёміцца з падлеглым яму абшарам лесу, навакольнымі вёскамі ды і людзьмі. А акалічныя людзі, як людзі. Не без таго было, каб хто пару хвоек без дазволу не спусціў. На дровы, а то нават на дошкі. Здараліся і браканьеры заўзятыя, якія зайцаў, касуль у петлі лавілі. Адным словам так, як шмат яшчэ дзе некультурныя, прагныя людзі лічылі лес, гэта агромнае багацце, за штосьці з радні ўласнага крывога хлеўчука, у якім можна даволі пашкудзіць.

Даўнішнія ляснічыя, ці то з ляноты, ці з абыякавасці, не вельмі ім у гэтым перашкаджалі. Новы быў іншы. Ён кахаў прыроду. Пабачыць, дзе свежы пянёк, дык усю вёску пераверне, каб знайсці ўкрадзенае бервяно. Пятлю дзе заўважыць, дык пару начэй ля яе ў кустах сядзець будзе, каб браканьера злавіць. Вялікімі карамі пагражае. Пабачылі лясныя хуліганы, што бяда. Дагэтуль, бывала, рабі ў лесе што хочаш, а цяпер нават сунуцца няма як. Вось і надумалі яны ляснічага загубіць. А трэба вам ведаць, што жыў у тым лесе дзядзька Лесавік — чарадзей магутны. Усіх звяроў, птушак ды мурашак ваявода. Усіх дрэў, кусцікаў ды травак начальнік. Жыў ён у найбольшым гушчары ля Гнілога Балота. І як старыя браканьеры казалі, хто калі сустрэў яго ў лесе, той да дому ўжо не вяртаўся. Вось і пачалі хітрыя дзядзькі ляснічаму тлумачыць, што няма сэнсу па іх панадворках крадзеных дроў шукаць. Што проста неразумна ля пятлі старажыць. Што ўсё гэта чарадзейскія штучкі. Стары хуліган дзядзька Лесавік тут вінаваты. Гэта ён, каб свежанінкай палакоміцца, зайцаў, касуль у петлі ловіць. Гэта ён, каб старыя рэўматызмам пакручаныя косці сагрэць, неміласэрна лес рубае. Ад вякоў так было, ёсць ды і мусі застанецца.

Абурыўся ляснічы. Малады, нявопытны яшчэ. «Што гэта, — кажа, — такое? Чарадзей не чарадзей. Хоча хуліганіць, дык няхай ідзе ў «гасподу». А ў лесе я не дазволю». А дзядзькі сваё: «Так і не дазволіце паночку. Думаеце, ён спалохаецца? Гэта ж страшыдла. Вышыні ён з паўдуба. Вочы шчылінкамі. Барада лапатаю да пояса звісае. Рукі, ногі, як карчы сукастыя. Махне паліцаю — бярозы валяцца. Кіўне пальцам, усе звяры збягаюцца. Ды і знойдзеце яго як? У найбольшым гушчары ён жыве. Ля Гнілога Балота». «А я лесу нішчыць не дам нікому, — ляснічы на тое. — Калі гэта ён вінаваты, дык хоць за бараду ў суд пацягну». Шукае ляснічы дзядзькі Лесавіка. Па ўсім лесе апавяшчэнні развешаў, што «Злосны хуліган. Той, якога дзядзькам Лесавіком называюць і чарадзеем лічаць, мае чым хутчэй з'явіцца ў лясніцтве на расправу за шкоды прычыненыя лесу». Заціраюць рукі лясныя зладзеі. Напэўна загубіць ляснічага страшны дзядзька. Тым часам ля Гнілога Балота шум. Лесавік са злосці бараду цярэбіць. Нагамі тупае так, што ўсе зайцы ў наваколлі са страху прысядаюць. Толькі што прынесла яму сарока, ягоны веснік, адну з картак, якія ляснічы па лесе развешаў. «Звярыны штаб хутчэй на сход, — зароў Лесавік, аж з дрэў пасыпалася лісце. — Дам я яму хулігана, смаркачу такому». А тут ужо бягуць. Зубр кусты ламае. З балота лось ужо выбег. З'явіўся шэры воўк, ліса ды вожык. Здалёк прыбег алень, пару касуль і два вепры, дзікоў прадстаўнікі. У развалку надышоў мядзведзь. Дый іншых шмат звяроў ужо на сходзе. Усе ў круг сядаюць. Сава сакратаром. На носе акуляры. Усім чытае картку. Абурыліся зверы. Такое нахабства. Дзядзьку Лесавіка злосным хуліганам назваць. Дык яго ж увесь лес ведае. Кожнаму ён паможа, параіць. Калі трэба, дык і рану залечыць. «Няма што, — хляснуў зубамі воўк. — Вось я толькі збегаю пару братоў паклічу. Мы з яго тры шкуры здзярэм з брахуна». «Яшчэ чаго, — раўнуў зубр. — Нават брыдка ў некалькіх на аднаго кідацца. Я яго сам. Як рагамі прыдушу. Як нагамі прытапчу. Збіраць не будзе чаго». «І я таксама», — лось на тое. «Дазвольце мне. — Тут з-пад куста падняўся рысь. — Я лапкай як пагладжу, напэўна карк скручу. Дый вочы выдзеру лайдаку». «А мы чым горшыя? — Захрукалі вяпрыска. — Жывот распорам. Разнясем у кускі». «А я ўсе куры падушу ў лясніцтве. Да смерці ён яечак не скаштуе», — умяшалася ліса. Тут усе зарагаталі. Што не было б, а яна пра сваю карысць думае. Раілі доўга. Спрачаліся моцна. Урэшце за парадаю мудрай вароны вырашылі ляснічага на суд даставіць і сходам усім судзіць. Трэ людзям прыклад даць. Яны без выбару амаль страляюць. Звяроў у петлі ловяць. А суд ёсць суд. У лесе ёсць законы. І кара знойдзецца го-го.

У той час малады ляснічы не дачакаўшыся водгуку на сваё апавяшчэнне сам рушыў у лес на пошукі дзядзькі Лесавіка. Спачатку дарожкаю ішоў. Пасля сцежачкаю. Урэшце праз гушчар пачаў прадзірацца. А ліха яго ведае, дзе тое Гнілое Балота. Раптам чуе, варушыцца нешта за суседнім дрэвам. Заглянуў. А там маленькі козлік у пятлі павіс. Прыдушаны ўжо. Вочы беднаму слязьмі заплылі. Духу не хапае. А вырвацца не мае як. Не адпускае варожы дрот. Падбег ляснічы. Адкруціў дроціска. Зняў з шыі пятлю. Бяжы каханы — козліку крыкнуў. І той, у шчасце сваё не верачы, шмыгнуў у кусты. Ляснічы ідзе далей. Кругом без краю лес. Тут чуе недалёка хрукае нешта. Глядзіць. А гэта дзічок, свінчо малое ўпала ў яму. Не можа вылезці. А смешнае. Як арыштант — у палоскі. Ускочыў ляснічы ў яму. Вепручка наверх выкінуў. Той толькі хрукнуў не вядома са страху ці ад радасці і згінуў у гушчары. Ляснічы вылез з ямы. Лесавіка шукаючы далей па лесе бродзіць. Не ведае, што за ім самім тут пошукі вядуцца. Знайшоў яго мядзведзь. Паціху ззаду падышоўшы ў абдымку абхапіў, аж косці затрашчалі, дый пазалок на сход. Напалоханы хлапец праз некалькі хвілін апынуўся сярод натоўпу звяроў, перад тварам грознага дзядзькі Лесавіка. «Го-го-го-го — засмяяўся Лесавік. — Бачыш! Я цябе сюды без усялякіх там картак-пісуляк даставіў. Без запрашэнняў». «А я вас сам шукаў», — адказвае ляснічы. «Гэта чаго ж?» — здзівіўся дзядзька. «Судзіць хачу», — хлапец на тое. Судзіць, як злыдня. Уз'ярыўся стары. Вачыма бліснуў. Хоча ўзняць паліцу, калі нешта яго раптам тыц у ногу. Глядзіць, а гэта козлік невялічкі, заледзве год ад роду, з разгону рожкамі яго баднуў. «Не чапайце яго, дзядзенька, — пішчыць. — Не чапайце, бо забадаю». Хрук. Хрук. Уперад выйшла вяпрыца. «Няма дзядзенька што. І я бараніць яго буду». Аслупеў Лесавік. Што гэта бунт? Калі яму аднак расказалі, як ляснічы вызваліў з пятлі козліка і як дастаў з ямы вепручка, ён перастаў гневацца. А калі яшчэ даведаўся ад хлапца, па якой прычыне той прыйшоў і хто яго падбухторыў — дзядзька Лесавік зароў ад смеху на ўсю ваколіцу. Смяяліся звяры. Ад хохату вавёрка з дрэва ўпала. Мядзведзь па жываце сябе так лапай лупцаваў, аж водгук ішоў навокал. А воўк са смеху нават забрахаў. Ляснічы здзіўлены стаяў не ведаючы, у чым справа. «Ну, — кажа Лесавік. — Насмешыў ты нас, сынку. Вось хітрыя зладзеі. Згубіць цябе хацелі са мною пасварыўшы. На маю бараду сваю віну зваліць. Ну я ім пакажу. Го-го-го-го. Вось будзе штука. А ты, як бачу, хлапец не благі. Умееш жыць у згодзе з лесам». Тут усе звяры на перабой пачалі ляснічаму тлумачыць, у чым справа. Што Лесавік ім сябрам. Што мяса ён не есць. Адно карэнні ды ягады ўважае. Грыбок часамі. А казак колькі ведае. Уся з лесу моладзь да яго іх слухаць ходзіць. Што хуліганяць у лесе злыя людзі. І што злавіць тых злыдняў яны яму памогуць. За тое, што ён добры. Што ім памагае. Што бараніць іх хоча.

Адразу вырашылі ў наступную ноч зрабіць вялікую аблаву на шкоднікаў і тых, каго зловяць, судзіць усім сходам. Рэштаю ў будучыні займецца сам ляснічы. «Ну і я не дам спуску», — смяяўся Лесавік.

Тым часам даведаўшыся, што ляснічы на нач не вярнуўся — згінуў пэўна, зладзеі рушылі ў лес пажывіцца. Крывы Кандрат пайшоў петлі праверыць. Мо зайчык задушыўся. Мо козачка. Глядзіць, сярод дарогі ляжыць вялізны дзік. Здаецца нежывы. Кандрат яго за нагу, за вуха тузануў. Урэшце стаў над ім акракам і перавярнуць хоча. Тут дзік як не схопіцца. Як не панясе Кандрата вярхом на сабе. Так і занёс проста суддзям у зубы. Мядзведзь з лісою завязалі сполку. Ліса мяха сцягнула недзе ў вёсцы. Мядзведзь, схаваўшыся ў кусты, мяшок наставіў. Рыжы Язэп тым часам, старую стрэльбіну схаваўшы пад палою, рашыў запальваць. Глядзіць ліса пад лесам. Язэп за ёю. Ліса між дрэвы. І ён туды. Урэшце за лісою ўлез у кусты. Ліса пад куст. За ёй Язэп. І проста ў мяшок улез з галавою. Так у мяшку мядзведзь яго і павалок. Вось воз едзе. Гэта Зміцрук так выбраўся па дровы. Вялізны рысь яго цяпер за карк трымае, а воўк кабылу ганіць, куды трэба. Яшчэ адзін. Вось хлапчука за вуха дзюбаю варона цягне. Рагамі ззаду козлік падганяе. Вожык у пяткі коле. Гэта, бачыце, невук і лобуз Сцёпка выбраўся птушкам гнёзды бурыць.

Быў шумны суд. Быў і прысуд суровы. Сяклі лазою ўсіх вінаватых. А дзе каму сам дзядзька Лесавік яшчэ пінка даваў — што з лесу вылятаў стралою. Да раніцы пуста было ля Гнілога Балота.

Адзін ляснічы лесу пільнаваў. Хочаце верце, або не верце, а гэта здарэнне ён сам мне расказаў.

Юрка Геніуш

 

## Наш Каляндар

# ЮЛЬЮШ СЛАВАЦКІ



**120 год назад, 3.IV. 1849 г. памёр вялікі польскі паэт Юльюш Славацкі. Па свайму значэнню ў польскай літаратуры займае ён месца побач з Адамам Міцкевічам. Славацкі нарадзіўся ў 1809 годзе на Валыні, у г. Крамянцы, у сям'і прафесара літаратуры. Адукацыю атрымаў на юрыдычным факультэце Віленскага ўніверсітэта. Галоўнай тэмай творчасці Славацкага, як і іншых паэтаў таго часу стала трагедыя сваёй айчыны. Гэтай тэме прысвечаны і верш, які мы сёння друкуем. Звяртаем увагу на дасканалы пераклад. Аўтарам яго — вядомы беларускі перакладчык Язэп Семяжон.**

## ★ ГІМН ★

Сумна мне, Божа! Хоць ты прада мною
Пурпурам захад заліў прамяніста,
Гасіш падсіненай хваляй марскою
    Зорак маніста,
Мора і неба залоціш прыгожа, —
    Сумна мне, Божа!

Я, як той колас, што выплакаў зерне,
Голаў узняўшы, стаю ля заліва.
Пройдзе тутэйшы і ўвагі не зверне:
    Выгляд шчаслівы.
Хто ім тут я — пілігрым перахожы?
    Сумна мне, Божа!

Як дзіцянё, не хаваючы жалю,
Тужыць па маці, так з жалем гляджу я
На небакрай, дзе, скаціўшыся ў хвалі,
    Сонца начуе.
Як бы хацеў з ім і я ў падарожжа! —
    Сумна мне, Божа!

Сёння, ў плаванні ў моры вялікім —
Сто міль ад берагу Нільскай даліны —
Ранілі ў сэрца мне мілыя клікі
    Стай жураўліных,
Можа дзе ў Полышчу ляцяць яны, можа...
    Сумна мне, Божа!

Частыя думы аб блізкай магіле,
Сум і туга па бацькоўскаму дому.
Гнаны вандроўнік — лічу свае мілі
    Ў грукаце грому.
Вечна ўхадзе — на шляхах, раздарожжах...
    Сумна мне, Божа!

Ты будзеш сведкай: злажу свае косці
Не пад плітой мармуровай у склепе.
Тым, што спачылі на родным пагосце,
    Сто разоў лепей.
Мне ж ты судзіў неспакойнае ложа.
    Сумна мне, Божа!

Знаю, штодзень на радзіме сіротка
Моліцца шчыра па мне без прывету.
Знаю, не ў край мой плыве мая лодка
    З белага свету.
Мабыць, маленне яе не паможа, —
    Сумна мне, Божа!

Гэтыя фарбы шматлікіх адценняў,
Гэтае зарыва з далі крывавай
І праз стагоддзі другім пакаленням
    Будуць забавай.
Хто ж прымірыцца з нікчэмнасцю зможа?
    Сумна мне, Божа!

Пачатак на стар. 1

# ТАК У ВАЯВОДСТВЕ

ецца гэта найзялікшы кашмар нашай культуры, які неабходна хутка і разумна ліквідаваць.

### СЕТКА ПУНКТАЎ

У 1966—68 гадах на Беласточчыне ўтварылася 219 новых культурна-асветных і 308 бібліятэчных пунктаў. Ва ўспомненым часе арганізавалася 4 дзяржаўныя кіно. Вялікім тэмпам узросту характарызуецца лічба пунктаў фінансаваных з бюджэтаў рад народовых. Горш справы маюцца з клубам ГС і школамі — цэнтрамі культурна-асветнага жыцця.

Заніжаны тэмп узросту школ-цэнтраў культурна-асветнага жыцця здаецца быць зразумелым. У сувязі з рэформай пачатковага школьніцтва прыбылі тут восьмыя класы, якія ў асноўным занялі памяшканні прызначаныя на культурную дзейнасць. Асноўнай прычынай слабога развіцця сеткі клубаў ГС з'яўляецца таксама недахоп памяшканняў. Арганізацыя гэтых пунктаў зыйшла цяпер на меншыя вёскі, дзе здабыць адпаведнае памяшканне цяжказата. Аднак магчымасці існуюць, справа толькі ў тым, што патрэбнае большае зацікаўленне адміністрацыі культуры і кіраўніцтваў паасобных ГС і ПЗГС. Найбольшы недахоп у нашым ваяводстве — гэта велізарная нераўнамернасць у размяшчэнні пунктаў к.о. Напрыклад, калі ў паветах Лапы і Монькі статыстычна адзін пункт прыпадае на няпоўныя 2 салэцтвы, дык у Сувальскім і Высокамазавецкім на больш, чым 4 салэцтвы. Яшчэ горш выглядаюць справы, калі ўзяць пад увагу паасобныя ГРН у дадзеных паветах.

Міма сігналізаваных недахопаў неабходна падкрэсліць вялікае заангажаванне павятовых і грамадскіх рад народовых у разбудову памяшканняў вясковых пунктаў к.о. Ва ўказаных катэгорыях пунктаў праграмныя прадпасылкі маглі б быць перавышаныя, — сказалі мне ў аддзеле культуры ВРН, — калі б не фінансавыя абмежаванні. Як прыклады прыведзена мне, што ў 1968 г. падрыхтавана на цэнтры культуры 12 памяшканняў, а паклікана толькі 10, на гэты год паветы распараджаюцца 16 памяшканнямі, а выкарыстаных будзе толькі 10. Прычыны — у асноўным недахоп сродкаў на зарплаты і інш. А жаль. Перш за ўсё па прычыне гэтага марнуецца шмат ініцыятывы і грамадскай працы паветаў, грамад і саміх жыхароў.

**А. Карпюк**

## ЛЮДЗІ БГКТ

# ГАЛЕНА ТАПАЛЯНСКАЯ



Выбраць правільную дарогу ў жыцці — не простае пытанне. Галена Тапалянская, якая паходзіць з Нарвы, закончыла ў 1955 годзе педагагічны ліцэй (паралельны беларускі клас) у Бельску Падляшскім і пачала працаваць у вялікай вёсцы Трасцянцы на Гайнаўшчыне. Ад самага пачатку палюбіла сваю прафесію, дзяцей, выхаваўчую працу.

— Прафесіі сваёй я ніколі ні на што не замяніла б, ніколі не пакінула б, — гаварыла яна ў час гутаркі з намі. Вучыць яна ў старэйшых класах беларускай мовы і літаратуры.

Жыва і цікава праходзяць у яе заняткі. Добрае веданне прадмета, імкненне перадаць веды сваім выхаванкам, педагагічная культура і майстэрства навучаць і выхоўваць — вось што ляжыць у аснове творчага яе падыходу да кожнага ўрока.

Галена Тапалянская ніколі не крычыць на дзяцей, не павышае тону. Яна патрапіла наладзіць у школе правільныя, добрыя ўзаемаадносіны з вучнямі. Гэтыя ўзаемаадносіны будуюцца ў яе на высокай патрабавальнасці, спалучэнні з глыбокім паважаннем асобы школьніка, яго ўласнай дзіцячай годнасці. Яна ўвесь час намагаецца ўдасканальваць сваё педагагічнае майстэрства. Дапамагала і дапамагае ёй у гэтым праца над сабой і далейшае пашырэнне сваіх ведаў. Галена Тапалянская працавала і адначасова вучылася ў завочнай настаўніцкай студыі на аддзяленні беларускай філалогіі ў Беластоку, дзе былі выкладчыкамі таленавітыя педагогі з Савецкай Беларусі. Настаўніцкую студыю закончыла ў 1960 годзе. І цяпер многа чытае і апрацоўвае дапаможныя матэрыялы да навучання беларускай мовы ў старэйшых класах.

А калі ўжо настаўнік пастаянна вучыцца, то ён з'яўляецца сапраўдным педагогам годным свайго высокага звання.

У мінулым годзе ў адным з класаў Галена Тапалянская арганізавала «Куток беларускай мовы». На сцяне можна ўбачыць там здымкі беларускіх пісьменнікаў: Янкі Купалы, Якуба Коласа, Міхася Лынькова, Кандрата Крапівы, Максіма Танка, Івана Шамякіна і іншых. Пад партрэтамі пісьменнікаў урыўкі з іх твораў. На спецыяльнай полцы пры сцяне ляжаць кніжкі многіх беларускіх пісьменнікаў. Шмат тут таксама рысункаў школьнікаў, тэмы якіх зачэрпнуты з паасобных твораў беларускіх пісьменнікаў. Тут можна пасядзець і многаму павучыцца, даведацца шмат аб беларускай літаратуры.

Навучэнцы школы, асабліва са старэйшых класаў начытаныя па беларускай літаратуры. З імі можна цікава пагаварыць аб беларускіх паэтах і празаіках, аб іх творах. Некаторыя школьнікі, як Ірына Краўчук, Лена Міранюк, Яўгень Нікіцюк спрабуюць пісаць вершы, а Міша Астроўка і Ваня Лук'янюк вельмі змястоўныя і цікавыя пішуць сачыненні і спрабуюць пісаць апавяданні. У гэтых іх здольнасцях, добрых задатках да творчасці адчуваецца непасрэдны ўклад працы настаўніцы — Галены Тапалянскай.

Галена Тапалянская і дзеячка жаночай арганізацыі (КГВ), і радная грамадскай рады нарадовай у Трасцянцы, і член камісіі асветы і культуры ГРН. Яна, як намеснік старшыні гуртка Беларускага таварыства, шмат дапамагае ў працы для праўлення гуртка. А гурток гэты налічвае 29 членаў.

Муж яе, Іван Тапалянскі, з'яўляецца сакратаром грамадскага камітэта ПАРП. Ён таксама ў павятовым праўленні БГКТ залічваецца да актывістаў аддзела. Як гавораць ужо вышэй успомненыя важнейшыя функцыі Галены і Івана Тапалянскіх, неабходна сказаць, што гэтыя людзі разумеюць сваё грамадскае прызначэнне ў найбольш шырокім сэнсе гэтага слова.

**Міхась Хмялеўскі**

Пачатак на стар. 1

# Справаздачна-выбарчая кампанія ў Гайнаўскім павеце

скім калектывам і г.д. Трэба адзначыць, што праўленне аддзела мае на гэта вялікія магчымасці і выясняе гурткам, што тыя павінны выкарыстоўваць гэтыя магчымасці. Актывісты, абслугоўваючыя гурткі БГКТ у Гайнаўскім павеце, выясняюць праўленням гурткоў, у чым заключаецца іх праца і ў чым можа ім дапамагчы праўленне аддзела, а чым павінны яны заняцца самі. Беручы пад увагу мясцовыя ўмовы, на сходах абмяркоўваліся спробы арганізавання або паляпшэння працы аматарскіх калектываў, распаўсюджвання беларускай літаратуры і культуры на вёсцы, а таксама арганізавання ўрачыстых вечарын, прысвечаных гадавінам і падзеям, як выбары ў Сейм і рады, 25-годдзе ПНР, Дзень Перамогі, Дзень Войска Польскага, гадавіна Кастрычніцкай рэвалюцыі, гадавіна міліцыі і г.д. У некаторых выпадках ужо на сходзе члены гуртка акрэслівалі профіль і напрамкі сваёй дзейнасці. У іншых выпадках праўленні гурткоў абавязаліся яшчэ раз абмеркаваць гэтыя справы з членамі, а прапановы пераслаць праўленню аддзела, каб разам знайсці спосаб іх рэалізацыі.

Справаздачна-выбарчая кампанія ў Гайнаўскім павеце павінна ў эфекце даць актывізацыю вясковага асяроддзя.

**Віктар Бура**
Інструктар ГП БГКТ
на Гайнаўскі павет

# ЦІ ХОЧАШ БЫЦЬ ЗДАРОВЫМ?

Лекары і вогуле працаўнікі службы здароўя найменш гавораць аб дасягненнях і найбольш незадаволены тым, што ёсць замала зубных лекараў, асабліва на вёсцы, замала медсясцёр, замала пунктаў здароўя, замала фармацэўтаў і аптэк па-за горадам, замала школы ахоплены пастаяннай лекарскай апекай. Гэта ўсё праўда. Але тое, што ёсць! Глянем на тое.

Цяпер тэарэтычна і практычна к о ж н ы можа лячыцца і павінен. Не толькі калі хворы, але вучыцца, як хваробы пазбягаць.

Расказвалі мне такую даваенную гісторыю: да лекара за дзесяткі кіламетраў прывозіць мужык хворую жонку, а за возам вядзе карову. Пытае лекара адразу, ці жонка выжыве, тады пойдзе і прадасць карову на лячэнне. Калі справа з жонкай безнадзейная, то каровы прадаваць не будзе, хай хоць яна застанецца.

Калі радзілася народная ўлада, ва ўсёй краіне не было бальніц, лекараў; людзі паміралі на розныя заразныя хваробы. На кожныя 1000 нованароджаных дзяцей яшчэ ў 1947 годзе памірала 107 (цяпер на Беласточчыне 7,4).

Год 1952 закончыў першы этап вялікай барацьбы з заразнымі хваробамі. Увайшлі тут і памаглі масавыя прышчэпкі, палепшанне санітарнага стану хатаў, панадворкаў і г.д.

У гэтых жа гадах нарадзілася ў горадзе Беластоку Медыцынская акадэмія — вялікая школа беластоцкага здароўя. Пачалі працаваць сярэднія медыцынскія школы — медсясцёр, лабарантаў, акушэрак, медыцынскіх тэхнікаў.

Мы цяпер прызвычаіліся жыць з лекарам, з лекарскай брашурай, з уколам, з пілюляй. Аж замнога часам хварэем. Але гэта толькі найлепш сведчыць аб даступнасці лекарскай дапамогі і лякарстваў.

28 бальніц ёсць на Беласточчыне з 6.533 ложкамі, з якіх у 1968 годзе скарыстала 125,5 тысяч асоб.

154 пункты здароўя і спулдзельні здароўя, 21 акруговая амбулаторыя розных спецыяльнасцей, 5 вялікіх ваяводскіх амбулаторый з дасканалым абсталяваннем найнавейшымі машынамі, ваяводскі цэнтр маці і дзіцяці, аб'язныя рэнтгены, перыядычныя масавыя прагляды і прышчэпкі...

Страшная хвароба вачэй т.зв. ягліца амаль знікла, коклюш зменшыўся, а яшчэ 20 год таму на 100 хворых на коклюш 10 памірала, пераважна дзеці.

Зараз толькі 3,7% дзяцей родзіцца ў хаце. Рэшта або ў бальніцы (75%), або ў радзільных дамах пры пунктах здароўя. Напрамак такі, што ў будучым жанчына павінна радзіць толькі ў бальніцы.

89% усіх дзяцей да года знаходзіцца пад пастаяннай лекарскай апекай.

Новая (ў 1968 годзе закончаная на Беласточчыне) рэянізацыя дзеліць ваяводства так: 1 пункт здароўя на 4 тыс. жыхароў, найбольшая адлегласць 7 км. У нас у сувязі з велізарнай раскіданасцю вёсак, паасобныя яны будуць мець крыху далей, але такіх вельмі нямнога.

Іншыя планы гэта: пры кожным пункце аховы здароўя — зубны лекар. Медыцынская акадэмія ў Беластоку распачала навучанне такіх лекараў, іх першы выпуск будзе за 3 гады.

Уклад дзяржавы ў ахову здароўя насельніцтва няхай адлюструюць тры лікі: кошт вывучэння аднаго лекара звыш 400 тыс. зл., медсястры — 110 тыс. зл., кошт аднаго ложка ў новапабудаванай бальніцы — 200 тыс. зл.

Бельская бальніца каштавала звыш 40 мільёнаў зл., Беластоцкая клінічная, папулярны «Гігант» — 160 млн. зл. (вл)



 

# ТАКАЯ СЁННЯ ГАЙНАЎСКАЯ ЗЯМЛЯ (2)

Асноўнай крыніцай утрымання жыхароў павета з'яўляецца сельская гаспадарка. На яе тады звернута асаблівую ўвагу. Трэба было пераканаць сялян да прымянення сучасных метадаў апрацоўкі зямлі, правядзення меліярацыі, увядзення ў пладазмен вырошчвання больш рэнтабельных раслін і г.д. У 1965 — 1968 гадах змеліяравана 1932 га зялёных угоддзяў, праведзена дрэнаж на 1632 га ворнай зямлі, рэгулявана 37,6 км. рэк. Была гэта марудная і цяжкая праца. Нічога, аднак, так не пераконвае, як добры прыклад. Калі сяляне ўбачылі, што меліяраваныя лугі даюць у 4 разы больш высокавартаснага сена, што на той самай глебе, дзе калісьці збіралі кепскія плёны жыта, аўса і бульбы, можна вырошчваць пасля правядзення меліярацыі пшаніцу, рапак, цукровыя буракі, гародніну і іншыя больш рэнтабельныя расліны — сітуацыя моцна змянілася. Калі раней трэба было нагаварваць сялян да меліярацыі дрэнажу палёў, сёння трэба іх у гэтым таймаваць. Сельскагаспадарчая служба не паспявае з апрацоўкай дакументацыі, меліярацыйныя прадпрыемствы таксама не паспяваюць.

Узрост сельскагаспадарчай культуры стварае запатрабаванне на высока кваліфікаваныя кадры аграномаў, меліярантаў і лугаводаў, а тых трэба шукаць са свечкай.

— Такога кірунку справы, — гаворыць тав. Мікалай Самоцік, сакратар КП ПАРП, — мы не прадбачылі ў час. Аднак пайшлі ў школы, правялі размовы з моладдзю заахвочваючы, каб выбірала напрамкі ў вышэйшыя школы паводле нашых патрабаванняў. Забяспечылі ёй працу, кватэры, уфундавалі нават больш дзесяці стыпендый на вышэйшыя навуковыя ўстановы. Зараз Гайнаўка мае на вузах 70 студэнтаў, з якімі павятовыя ўлады ўтрымоўваюць жывы кантакт. Ёсць надзея, што большасць з іх пасля атрымання дыплому будзе працаваць у павеце.

**ТОРМАЗЫ ПРАГРЭСУ**

Праблем павет мае многа. Блізка 11 тысяч га ворнай зямлі патрабуе дрэнажу. Для прысяпшэння гэтай працы патрэбным з'яўляецца ў павеце філіял меліярацыйнага прадпрыемства. Але, на жаль, на рашэнне ваяводскіх улад чакаецца даволі доўга. Меліяраваныя сенажаці даюць трохкратна больш сена. Развіваецца жывёлагадоўля. У 1965—1968 гадах пагалоўе быдла павялічылася на звыш 3 тыс. штук. У маі, чэрвені і ліпені мінулага года скупоўвалі па 30 тыс. літраў малака. Існуючая ў павеце малачарня не ў стане перарабіць гэтага малака.

Павет мае вельмі добры торф для ўгнойвання. Як паказалі праведзеныя доследы, большасць тутэйшых глеб надаецца для ўгнойвання. Нельга, аднак, знайсці ўстанову, якая прыступіла б да эксплуатацыі пакладаў у масавым маштабе.

Беспрацоўя ў павеце няма, але на добрую справу магло б адплысці з вёскі (без ніякай шкоды для сельскай гаспадаркі) 2—3 тыс. людзей. Трэба, значыць, стварыць новыя месцы працы. Думаем аб разбудове існуючых прадпрыемстваў, аб будове новых. У павеце ёсць высакаякасныя паклады гліны. На базе гэтай сыравіны ўжо ў гэтым годзе пачынаецца ў Ляўкове разбудова керамічнага прадпрыемства, т.зв. Ляўкова 2, якое будзе вырабляць ад 30—40 млн. керамічных адзінак у год. Уладзіцца такім чынам наспеўшая на гэтай тэрыторыі праблема працы, знойдуцца таксама ўрэшце будаўляныя матэрыялы на ўласныя патрэбы і для ўсяго ваяводства. Не падлягае сумненню, што эфекты былі б яшчэ большыя, калі б здолелі выкарыстаць у паасобных гадах усе планавыя інвестыцыйныя выдаткі. Гайнаўскі павет у выніку невыкарыстання інвестыцыйных планаў штогод затрачвае на прыросце трывалай маёмасці звыш 15 млн. зл. Адной з галоўных прычын невыканання інвестыцыйных заданняў з'яўляецца выступаючы яшчэ недахоп прадукцыйнай здольнасці будаўляных прадпрыемстваў. Гайнаўка не мае ніводнага будаўлянага прадпрыемства. На добры лад, беручы пад увагу вялікасць інвестыцыйных выдаткаў у горадзе і павеце, магло б тут дзейнічаць будаўлянае прадпрыемства, якому хапіла б працы на сёння і ў будучыні. Але гэта іншая праблема, якая не з'яўляецца залежнай ад гайнаўскіх улад. Адсюль да галоўных заданняў у 1969—70 гадах будзе належаць лепшая чым у мінулым перыядзе рэалізацыя інвестыцыйнага плана. Эканамічная сітуацыя Гайнаўскага павета дазваляе на сцверджанне, што атрыманы ўзровень развіцця з'яўляецца трывалай базай, якая робіць магчымым паспяховую рэалізацыю заданняў вынікаючых з пастаноў V з'езда партыі.

**Канстанцін Ляшчынскі**

# Нарада перадавых гаспадароў



**На здымку: Прэзідыум нарады.**

Фота Р. Сянько

Была гэта вельмі важная падзея ў гаспадарчым жыцці Беластоцкага ваяводства. 17 сакавіка г.г. прасторную залу Дзяржаўнага тэатра ў Беластоку запоўнілі сяляне. Звыш 600 найлепшых з найлепшых. Прыехалі з усіх паветаў Беласточчыны. Прывязлі з сабой свой вопыт, свае сакрэты, якія дазваляюць ім дабываць з зямлі ўраджай, пра які не марылі іх бацькі, пра які некалькі год таму назад не думалі яшчэ яны самі.

Палітычныя і адміністрацыйныя ўлады прыдалі гэтай сустрэчы перадавікоў сельскагаспадарчай прадукцыі самае вялікае значэнне. Нарадай кіраваў старшыня Прэзідыума ВРН у Беластоку **С. Жмійка**, з асноўным дакладам аб стане і заданнях сельскай гаспадаркі Беластоцкага ваяводства выступіў I сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку **А. Лашэвіч.** Усе, хто сярод ваяводскіх дзеячоў мае якія-небудзь адносіны да сельскай гаспадаркі, знаходзіліся гэтага дня сярод сялян. Нараду сваёй прысутнасцю ўганараваў міністр сельскай гаспадаркі **Мечыслаў Ягельскі.**

С. Жмійка, адкрываючы нараду, між іншым, сказаў:

«Дасягнутыя дагэтуль вынікі ў сельскагаспадарчай прадукцыі даказваюць, што Беластоцкая вёска ўсё лепш выкарыстоўвае дапамогу дзяржавы. Аднак асягнуты ўзровень сельскагаспадарчай прадукцыі ўсё яшчэ недастатковы, калі прыраўняць яго да патрэб дзяржавы і да магчымасцей нашага ваяводства... Больш поўнае выкарыстанне існуючых рэзерваў — гэта зараз найважнейшае наша заданне».

Дзе гэтыя рэзервы?

У зямлі, у яе належным выкарыстанні, у магчымасцях, якія дае сучасная тэхніка і хімія, у навуцы, якая дазваляе зразумець гэтыя магчымасці і знайсці гэтыя рэзервы.

Сяляне, якія марознага сакавіцкага дня сабраліся ў беластоцкім тэатры, зразумелі, менавіта, гэтую звычайную праўду.

**— Калі Шчапан Сухвалка з вёскі Барглаў у Аўгустоўскім павеце, які гаспадаруе на 9-ці гектарах зямлі, дабіўся ўраджаю ў 29 цэнтнераў збожжа з аднаго гектара, у тым пшаніцы — аж 36 цэнтнераў, а бульбы — аж 320 цэнтнераў;**

**— Калі Ян Доліва з вёскі Комак у Элцкім павеце, які гаспадаруе на 18-ці гектарах зямлі, дабіўся сярэдняга ўраджаю збожжа ў 31 цэнтнераў, у тым пшаніцы — 38 цэнтнераў, а бульбы — 320 цэнтнераў і сена — 80 цэнтнераў;**

**— калі Вальдэмар Лушчынскі з вёскі Хралавіцэ ў Сяміцкім павеце на сваёй 14-цігектаровай гаспадарцы дабіўся ўраджаю ў 30 цэнтнераў збожжа, у тым пшаніцы — 32 цэнтнеры, бульбы — 300 цэнтнераў і сена — 77 цэнтнераў;**

**— калі Зыгмунт Чачкоўскі з вёскі Шэрэносы ў Беластоцкім павеце на сваёй 8-мігектаровай гаспадарцы дабіўся 27 цэнтнераў збожжа, у тым пшаніцы аж 38 цэнтнераў і сена — 85 цэнтнераў —**

**— дык чаму іншыя гаспадары, часта іх суседзі не могуць мець такіх самых, а нават яшчэ лепшых ураджаяў.**

На гэтых гаспадароў спасылаўся ў сваёй прамове А. Лашэвіч.

Яны зразумелі аб чым зараз пастаянна гаворыцца: трэба прымяняць штучныя ўгнаенні. У гаспадарках гэтых сялян на адзін гектар прыпадае да 250 кг хімічна чыстага рэчыва штучных угнаенняў на 1 га. Гэта ўзровень найбольш развітых еўрапейскіх краін.

На другім полюсе амаль 4 тысячы гаспадароў з Сяміцкага павета, 3880 гаспадароў з Гайнаўскага павета і не многа менш з іншых паветаў. Яны ў сваіх гаспадарках **не прымяняюць нават па 15 кілаграмаў NPK на 1 га.** І Гайнаўскі, і Сакольскі, і Сяміцкі паветы часта называў тав. А. Лашэвіч, на жаль перш за ўсё тады, **калі трэба было прывесці адмоўны прыклад.**

У канцы нарады выступіў міністр М. Ягельскі. Яго прамова была наглядным урокам і для перадавых гаспадароў Беластоцкага ваяводства і для кіраўнікоў сельскай гаспадаркі. З задавальненнем адзначыў ён дасягненні сялян Беласточчыны і намаганні беластоцкіх улад, а затым, між іншым, сказаў:

«Яшчэ раз з націскам хачу адзначыць, што асноўнай праблемай Беласточчыны астаецца збожжавая прадукцыя. Гэтая прадукцыя з'яўляецца вядучай і вузлавой. Прагрэс дасягнуты ў гэтай галіне будзе адлюстраваннем і мерай прагрэсу для ўсяе сельскай гаспадаркі ваяводства. Гэта праўда, што на працягу апошніх 4-х год сярэдні прырост плёну ў Беластоцкім ваяводстве склаў 3,3 цэнтнера. Гэта вялікі прырост, але памятаць трэба, што плён Беласточчыны — **гэта толькі 18 цэнтнераў з гектара.** Неабходна тады за як найбольш пільнае заданне вызначыць сабе мэту, каб як найхутчэй дасягнуць плёну ў нейкіх 20 цэнтнераў з гектара. Мы павінны ў Беластоцкім ваяводстве, і то хутка, пераадолець гэты зачараваны бар'ер 20-ціцэнтнеравага ўраджаю. Калі гэтага не даб'емся, дык заўсёды будзем прадметам такой ці іншай, менш або больш апраўданай крытыкі...»

Удзельнікі нарады выступілі з прывітальным пісьмом таварышу Уладзіславу Гамулку.

**М. Нурэцкі**

# Дасягненні Бельшчыны

Бельская зямля стаецца з кожным годам багацейшай. Асабліва цешаць дасягненні сельскай гаспадаркі. Ураджайнасць з 1 гектара збожжа ў мінулым годзе асягнула тут **18,1 цэнтнера.** У 1967—1968 гадах у сярэднім кожны год гаспадары прадавалі дзяржаве па 8 тысяч тон збожжа. Сістэматычна павялічваецца скупка мяса. Жывой вагі свініны скуплена ў 1967 г. 5.533 тоны, а ў 1968 — ужо 6.000 тон, а ялавічыны адпаведна 3.566 і 3.765 тон.

У мінулым годзе малачарскія спулдзельні выкупілі ад гаспадароў Бельшчыны **32 мільёны літраў малака.** Хутка ўзрастала колькасць і якасць авечак. Аб гэтым сведчыць узрост скупкі воўны з **28.840 кг.** у 1967 годзе, **да 38.230 кг.** у 1968 годзе. Гаспадары гэтага ж павета ў год прадаюць дзяржаве больш **15 мільёнаў яек.**

Аб гэтых дасягненнях сведчыць і тое, што гаспадары ўспамянутага павета ўжо ў лістападзе мінулага года выканалі план абавязковых паставак збожжа. На многа палепшылася скупка збожжа з кантрактацыі. Да 31.I. 1969 года скуплена ўжо 3.154 тоны збожжа на запланаваныя да скупкі ў цэлым годзе 4.815 тон.

Успамянутыя дасягненні — вынік супольных намаганняў партыйных арганізацый, сельскагаспадарчай службы і, безумоўна, саміх гаспадароў. (АК)

# АГЛЯД У МІЛЕЙЧЫЦАХ

16.03.69 г. у грамадскім цэнтры культуры ў Мілейчыцах адбыўся павятовы агляд аматарскіх драматычных і харавых калектываў беларускага асяроддзя.

У аглядзе ўзялі ўдзел калектывы з Вілінава і Мілейчыц. З вёскі Вілінава выступілі два калектывы — драматычны і харавы пад кіраўніцтвам таленавітага арганізатара і грамадскага дзеяча нашага таварыства Анатоля Мартыновіча. Драматычны калектыў паставіў камедыю ў дзвюх дзеях М. Блізнюка «Дзесяць гектараў», а харавы — з шырокім рэпертуарам беларускіх народных песень.

З Мілейчыц выступіў драматычны калектыў з п'есай сучаснага аўтара Тэадоры Банасёвай «Крэдавае кола», пад кіраўніцтвам Ядвігі Дамброўскай. Па-за конкурсам выступіў рэцытатар павятовага дома культуры гр. Мікалай Жабінскі, з мантажом вершаў беларускіх паэтаў Янкі Купалы і М. Танка.

Тут трэба неабходна падкрэсліць, што вілінаўскі калектыў не гледзячы на засыпаныя снегам дарогі, дзе санкамі, а дзе пешшу прабіраўся 16 кіламетраў. Гэтага дня на агляд не маглі прыехаць мала загартаваныя на такую бездарожыцу калектывы з Літвінавіч, Верпаля, Сяміхоч, Столбцаў, Волькі Нурэцкай і Зубачоў. Таксама беластоцкае журы не магло прыехаць.

У выніку агляду журы на чале са ст. інструктарам ПДК з Сяміціч п. Пентковай вытыпавала два калектывы на міжпавятовы агляд: драматычны калектыў з Мілейчыц з п'есай Т. Банасёвай «Крэдавае кола» і вілінаўскі харавы калектыў беларускай народнай песні.

Адначасова была наладжана фотавыстаўка «50 год БССР» і выстаўка народнага ткацтва.

Тэкст і фота: **Сяргей Крэйза**



**Выступае хор з Вілінава пад кіраўніцтвам А. Мартыновіча.**



**Выстаўка «50 год БССР» у Мілейчыцкім доме культуры.**

# 10 МІНУТ ДЛЯ ЗДАРОЎЯ



Ужо старажытныя рымляне масавалі ўсё цела, уціраючы ў скуру пахучыя алеі. І ўжо яны ведалі, які вялікі ўплыў на наш арганізм аказвае масаж і якое значэнне мае гэта для нашага здароўя, знешняга выгляду і перш за ўсё для захавання добрай мускулатуры і свежасці скуры. Вядома, найпрасцей звярнуцца з гэтым да кваліфікаваных людзей у касметычным пункце ці лазні. Але можна рабіць масаж і дома, калі добра пазнаёміцца з тым, як гэта рабіць і выкарыстоўваючы дапамогу кагосьці з членаў сям'і.

Існуе галоўнае правіла масажа: масаваць трэба заўсёды ў напрамку сэрца.

Пачынаем масаж адразу пасля купання, бо тады цела добра разагрэта, а скура расслаблена, значыць, лепш паддаецца масажу і лепш паглынае пажыўныя крэмы ці алей. Для масажа добры аліўкавы або міндалевы алей, да якіх можна дадаць сок з аднаго лімона. Калі скура тлустая, добра дадаць яшчэ некалькі кропель рому або каньяку. Масаж трэба рабіць у сухім, добра абагрэтым памяшканні. Масуем шляхам гладжання, лёгкага ціскання або паляпвання, а пры масажы суставаў — расціранне. Аднак пачынаць масаж трэба ад гладжання і канчаць ім, бо гэты рух вельмі супакойвае нервы.

На нашых здымках некалькі прыкладаў масажа, якія лёгка зрабіць у хатніх умовах. Два першыя здымкі — масаж шыі. Мускулы шыі заўсёды асабліва «змучаныя». Хуткімі рухамі гладзім цела ў напрамку ад спіны да шыі, пасля вялікімі пальцамі кругавымі рухамі гладзім шыю. Два другія — масаж плячэй. Гладзім знізу ўверх у напрамку стрэлкі, а затым лёгка ціснем у тым жа напрамку. Два трэція — масаж спіны. Лёгка прыціскаем кругавымі рухамі, а потым энергічна адбіваем бокам далоні. (я)

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

### ВЯЛІКАЯ ПЕРСПЕКТЫВА БЕЛАРУСІ

Вядома ўжо, што Беларусь мае сваю нафту. Пачалася прамысловая эксплуатацыя нафтавых палёў на беларускім Палессі.

Не так даўно геолагі сцвердзілі яшчэ адно радаснае адкрыццё: **«Ёсць на Беларусі прамысловыя руды!** Будзе тут вялікая чорная металургія!»

Выяўлена некалькі інтэнсіўных магнітных і гравітацыйных анамалій. Гэта на Гродзеншчыне: у ваколіцы Гродна, Шчучына, Мастоў, Ліды, Навагрудка, Карэлічаў, і ў суседніх ваколіцах. Геолагі сцвердзілі вельмі многа агульных рыс з такімі добра вядомымі руднымі рэгіёнамі, як Курскі, Крыварожскі. На Гродзеншчыне спадзяваюцца знайсці не толькі жалеза, але і іншыя руды. Гэта пацвердзіла геалагічная разведка ў ваколіцы Свіслачы, Ваўкавыска, Зэльвы, Ліды, Навагрудка, Маладзечна. У навасёлкаўскіх рудах хімічнымі аналізамі сцверджана больш як шэсцьдзесят працэнтаў жалеза, а запасы тых руд ацэнена на каля сто мільёнаў тон. Толькі ў адной ваколіцы!

Апрача таго ўстаноўлена, што ёсць у беларускай зямлі нікель, медзь, кобальт, тытан.

У час геалагічнай праверкі адной з анамалій устаноўлена, што руда знаходзіцца на глыбіні каля сто пяцьдзесяці метраў.

Цяпер на Беларусі, перш за ўсё, на Гродзеншчыне адбываюцца вельмі інтэнсіўныя геалагічныя пошукі, заданнем якіх з'яўляецца ацэнка размераў пакладаў, запасаў і якасці жалезных руд. Эксплуатацыя беларускіх руд будзе вельмі выгоднай эканамічна. Мабыць, недалёкі той час, калі Гродзеншчына ператворыцца ў беларускі Шлёнск, а беларуская эканоміка зробіць гіганцкі скок наперад. Моцна ўзрасце гаспадарчае значэнне Беларусі ў Еўропе і на цэлым свеце. (ся)

## Жанчыны — інжынеры

Ніводная дзяржава нашай планеты не стварае жанчынам так разнастайных магчымасцей развіцця іх інтэлекту і здольнасцей, як у Савецкім Саюзе. Сведчаць аб тым перш за ўсё лічбы, апублікаваныя на міжнароднай канферэнцыі жанчын — інжынераў.

У Савецкім Саюзе **кожны пяты** інжынер — гэта жанчына, у Францыі — на 50 інжынераў-мужчын толькі адна жанчына, у Злучаных Штатах Амерыкі — на 130 мужчын, у Вялікабрытаніі — на 300, у Японіі — на 400, а ў Канадзе і Індыі — на 500 інжынераў мужчын адна жанчына. (А—ся)

## ШТУЧНАЯ КРОЎ

Штучная кроў, якую вынайшоў доктар Роберт Джэйнер, вядзе сябе ў арганізме амаль зусім так, як сапраўдная. І хоць у гэтай вадкасці няма ані кроплі гемаглабіну, яна паглынае кісларод і выдаляе з тканак цела вуглекіслы газ — прадукт акіслення. Доследы праводзяцца на пацуках і сабаках: зусім зразумелая асцярожнасць. Вынікі такія: можна выкачаць з арганізма да 80% крыві і замяніць яе эмульсіяй Джэйнера, і сабака будзе весці сябе так, быццам нічога не здарылася. А праз нейкі час колькасць чырвоных крывінак у паддоследных арганізмаў вяртаецца да нормы. Праўда, эмульсіяй доктара Джэйнера поўнасцю замяніць кроў нельга. Пацукі пасля такой замены загінулі праз 6—8 гадзін. Але ж для медыцыны нашых дзён 7—8 гадзін — гэта ж цэлая вечнасць. (я)

### БЕЛАРУСКАЯ МОДА



Зімовыя боты

## САРАНЧА НА РАЖНЕ

Да спецыяльных прысмакаў у афрыканскіх краінах залічваецца... саранча. Гэты гастранамічны дэлікатэс вядомы ўжо некалькі тысячагоддзяў. Аб саранчы, як аб вельмі смачнай ежы, успамінаюць многія старажытныя вучоныя, як Страбон, Пліній і іншыя.

Прыпраўленая мёдам саранча яшчэ сёння з'яўляецца ўлюбёным прысмакам многіх народаў. Слаўны падарожнік Д. Лівінгстон, які з часам палюбіў гэты спецыфічны прысмак, піша аб саранчы, што яна многа лепшая, чым крэветкі. У час налётаў саранчы афрыканцы пражываюць сапраўднае жніво гэтых насякомых.Аладкі з саранчы ў вялікай колькасці пякуць вулічныя гандляры ў Лівіі. Саранча, падсмажаная на алеі, — найлепшы прысмак многіх плямён у Конга. Мараканцы смажаць саранчу на ражне. У Белуджыстане саранчу сушаць на запас і перахоўваюць у мяшках.

А ў Аўстраліі дзяржаўныя служачыя абавязаны прапагаваць ужыванне саранчы ў ежу. Асабліва моцна прапануецца смажаная саранча. (я)



## КУЛІНАРЫЯ

### Салата «мінская»

Да адваранай бульбы, нарэзанай дробнымі кавалачкамі, дадайце нашаткаваную капусту, вараныя шампіньёны. Запраўце воцатам, алеем і пасыпце цукровым пяском.

На 4 бульбіны — крышку шампіньёнаў, 1 цыбуліна, 2 ст. лыжкі квашанай капусты, 1 ст. лыжка алею, воцат, цукар.

## Чэрць стагоддзя назад




Пачалася серыя няўдач. Неўзабаве пасля смерці Нячаева прыйшла да Косці вестка, што гестапа ў Беластоку мае інфармацыю аб нашай зямлянцы. Пакуль толькі не ведае, дзе яна дакладна знаходзіцца. Гэтага мы не спадзяваліся. Хто нас выдаў? Агенты Бельскага гестапа былі знішчаны. Усё гаварыла за тым, што агент, які сачыў за намі, утрымлівае непасрэдны кантакт з гестапа ў Беластоку. Нельга было марудзіць: неадкладна пакінулі мы зямлянку на Кабыліх Галовах і перайшлі ў новую — пабудаваную паміж вёскамі Снежкамі і Пятроўшчынай.

Папярэджанне прыйшло своечасова. Тыдзень пасля нашага перасялення, нямецкі атрад у ліку дзвесце эсэсаўцаў акружыў Кабыліны Галовы. Эсэсаўцы знайшлі лазы ў зямлянку. Зямлянка была пустая. Залажылі яны ўнутры ўзрыўчатку і ўзарвалі бункер. На яго месцы засталася толькі глыбокая яма.

Толькі пасля вайны даведаўся я, што нямецкім агентам, які сачыў за намі, быў поп з Боцькаў, Турсўскі. Злоўжываючы пасаду свяшчэнніка, выкарыстоўваў ён наіўнасць людзей, іх рэлігійныя пачуцці, мабыць і тайны споведзі. Атрыманыя такім чынам звесткі, як юда, перадаваў немцам.

Ішлі дні. На світанні 17 сакавіка 1944 года варту ля новай зямлянкі нёс армянін Бабаян. У зямлянцы ўсе партызаны спалі. Нехта з іх так пранізліва хроп, што зусім выбіў мяне са сну. Пераварочваўся я з боку на бок і ніяк не мог заснуць. Ужо хацеў устаць і абудзіць храпуна, як раптам пачуў я крокі ў падземным калідоры, які вёў у мурашнік, гэта значыць у назіральны пункт, дзе нёс варту Бабаян. У святле карбіднай лямпачкі, якая ў куце зямлянкі свяціла маленькім беленькім агеньчыкам, убачыў я ўваходзячага армяніна і яго Сэ-Ва-Тэ з заткнутым на дуле кароткім плоскім штыком. Сэ-Ва-Тэ гэта скарочаная назва дзесяцістрэльнай паўаўтаматнай савецкай вінтоўкі. Поўная назва: десятистрельная самозарядная винтовка. Пахілены Бабаян асцярожна, каб не зачапіць спячых партызан, прабіраўся туды, дзе спаў камандзір. Урэшце пачуў я яго прыцішаны голас:

— Товарыш камандыр... товарыш камандыр... вставай, пожалуйста...

Смірноў нешта мармытаў праз сон.

— Вставай пожалуйста, я тэбэ говору, вставай послюшай, война... стрэляют!

— Дзе страляюць? Хто? — зрываючыся з нар, спытаў Смірноў.

— Война! — працягваў Бабаян.

— Якая вайна? — спыніў яго камандзір. — Гавары з сэнсам. Што вайна, ведаю ўжо чатыры гады...

— Стрэляют на запад, там фронт...

— Што на захадзе другі фронт, таксама ведаю. Ці ж ты можаш гаварыць па-людску?

— Не там на запад, а здесь на запад стрэляют, сам іді послюшай!

Прыслухоўваючыся да гэтай гутаркі, я не вытрымаў і захіхікаў. Паўзнімалі галовы і іншыя партызаны.

Вышлі мы на верх. З-за Буга даносіўся гук далёкіх узрываў. Рваліся міны, або артылерыйскія снарады. На цёмнай сцяне сакавіцкага начнога неба бліскалі чырвоныя маланкі. Як у час надыходзячай буры.

— Што гэта можа быць? — спытаў Смірноў. — Гэта сапраўды нейкі бой. Але хто з кім ваюе? У тым баку ніякіх нашых атрадаў няма. Не было выпадку, каб немцы прымянялі тут і артылерыю.

— Відаць гэта ў Люблінскім ваяводстве, — адказаў я. — Магчыма, пранік туды нейкі атрад Арміі Краёвай? Хто яго ведае. Пачакайма да раніцы: утро вечера мудренее.

Стаялі мы з паўгадзіны, снуючы розныя здагадкі. Урэшце маланкі зніклі, усё супакоілася.

— Пашлі спаць, — сказаў Смірноў, — пастралялі і пайшлі. Усюды вайна. Гэта далёка, апрача заспакаення цікавасці нічога нам не дасць...

18 сакавіка на змярканні з групай партызан пайшоў я ў Снежкі на сустрэчу з нашымі сувязнымі. Калі падыходзілі мы да вёскі, сцямнела зусім. Былі мы ўжо каля вясковых клуняў, як злева ад нас, недзе ў некалькі кіламетрах затарахцелі кулямёты. І зноў узрывы снарадаў і мін, зноў вячэрняе неба пачало зіхацець яснымі маланкамі. Мы выразна адчувалі, што дры-

 

# ТРЫБУНА чытачоў

### У ГОНАР 25-ГОДДЗЯ ПНР

Працаўнікі ПЗГС-у ў Гайнаўцы пастанавілі ў сувязі з 25-годдзем ПНР выканаць чын на суму 100 тысяч злотых. На працягу года кожны працаўнік папрацуе грамадскім чынам 5 дзён. Чыны рэалізаваныя будуць пры парадкаванні пляца ПЗГС, будовы рампы і пабудовы басейна.

Варта дадаць, што ПЗГС выканаў поўнасцю, а нават перавыканаў свае абавязацельствы ў гонар V з'езда ПАРП.

**Янцал**

### СУСТРЭЧА З АФІЦЭРАМ

Нядаўна адбылася цікавая сустрэча з савецкім афіцэрам у лясным тэхнікуме ў Белавежы.

Госць расказаў прысутным аб сваім баявым шляху і аб тэхнічнай базе савецкіх войск.

Расказ афіцэра быў успрыняты бурнымі апладысментамі.

**Ц. Я.**
Белавежа

### МЕРАПРЫЕМСТВЫ З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ

На Гайнаўшчыне шмат мерапрыемстваў адбудзецца ў сувязі з 25-годдзем Польскай Народнай Рэспублікі.

У чэрвені адбудзецца ваяводская спартыўная плывацкая спартакіяда, у ліпені — турнір валейболу, турыстычны райд матацыклістаў шляхам змагання за вызваленне Гайнаўшчыны. У ліпені апрача таго адбудуцца спаборніцтвы па велагонцы ў сувязі з вызваленнем Гайнаўкі і спаборніцтвы малой велагонкі пад назвай «Дружба».

З іншых мерапрыемстваў трэба падкрэсліць Павятовую спартакіяду моладзі і спартыўныя ігры ЛьЗС-аў.

**Янка Цялушэцкі**
Гайнаўка

### ВАРВАРСТВА

Дарога Дубічы—Орля амаль у цэласці паабапал абсаджана дрэўцамі — акацыямі і таполямі. Таполі растуць хутка і за гэтых некалькі год (як дарога існуе жвіраваная) выраслі даволі вялікія. Але вось за гэту зіму нейкія «караеды» ў выглядзе чалавечых постацей пачалі гэтыя дрэўцы знішчаць (зрэзваць). Ёсць такія месцы пры дарозе, што на даўжыні некалькіх соцен метраў няма ўжо ніводнага дрэўца, і толькі тырчаць адны пні.

Хто іх зрэзвае і навошта?

Жыхары вёсак з-пад Орлі, а нават і з-пад Бельска Падляшскага зімою штодзённа гэтай дарогай возяць фурманкамі сабе дровы з далёкай Белавежскай пушчы, і як гавораць людзі, некаторыя з гэтых дрывасекаў і крадуць маладыя таполі, якія дома ўжываюць на лыка да кэробак, якія цяпер вельмі многімі плятуцца на Гайнаўшчыне і Бельшчыне.

Чытачы напэўна згодзяцца на тое, што такія паразіты (інакш іх назваць нельга) пазбаўлены ўсялякай культуры і пашаны да людскога дабра, прычыняюць зло, якое відавочна ім прыносіць прыемнасць.

**П. Дубовіч**
Гайнаўскі павет

---

жыць зямля. Спыніліся мы і, як заваражаныя, глядзелі ў напрамку бою.

— Што вы, хлопцы, аб гэтым думаеце? — спытаўся я. — Што па адзін бок немцы, гэта бясспрэчна. Але хто той другі бок?

— А хто яго ведае, таварыш Валодзя, — адказаў адзін з іх. — Мо гэта нашы? Мо Мартынаў з брыгадай? Ці не лепш вярнуцца ў зямлянку і ўсім атрадам пайсці на выручку?

— Кажаш, пайсці на выручку? Але каму? А ноччу якраз разбярэшся, дзе немцы, а дзе свае. Свае таксама ўзялі б нас за немцаў. Адны да другіх стралялі б. Зрэшты, нам нельга, перад намі іншае заданне. Нашы інфармацыі, якія пастаянна перадаем, важнейшыя ад такога аднаго ці некалькіх баёў. Ды ўжо аднойчы пайшоў Васіль Іванавіч.

За клуні вываліла амаль уся вёска: мужчыны, жанчыны, дзеці. Ішлі ажыўленыя спрэчкі. Мы не хаваліся, ведалі амаль усіх. Я пазбягаў толькі гутаркі з імі, ведаў — засыплюць пытаннямі, лічачы, што я павінен ведаць, што там дзеецца. А тым часам я быў цёмны.

Пасля паўгадзіны бой сціх і людзі разышліся па хатах. Наступіла спакойная, ціхая, моргаючая мільёнамі зорак на небе, сакавіцкая ноч.

**Ян Анацік**

### ПЕРАДАВЫ

Сельгасгурток у Тафілаўцах у мінулым годзе меў не малыя дасягненні ў сваёй працы. Калісьці ён «ехаў» на дэфіцыце, цяпер справа зусім іншая. Калектыў гэты за мінулы год меў нядрэнны даход.

Трактары (а іх 6 штук) выдатна выпрацавалі свае гадзіны, і іншыя сельгасмашыны таксама не пуставалі. Гурток апрацоўвае 25 гектараў зямельных угоддзяў з Дзяржаўнага фонду зямлі. За кароткі час ураджайнасць з гектара значна павялічылася, і праўленне найбольш увагі звяртае на недакладнае мінеральнае ўгнаенне зямлі, а таксама на яе вапнаванне. Выдатна спраўляецца са сваімі абавязкамі праўленне сельгасгуртка, у якім нельга не ўспомніць прэзаса Уладзіміра Карча і дыспазітара Міхася Рыбака.

П. М.
Тафілаўцы

### У ГАРЦЭРАЎ З ЛЯШУКОЎ

У вёсцы Ляшукі (Гайнаўскі павет) ёсць васьмігадовая пачатковая школа. У школе адной з найбольш актыўна дзейнічаючых маладзёжных арганізацый з'яўляецца гарцэрства. Нядаўна ляшуцкія гарцэры наладзілі сяброўскія кантакты з гарцэрскай дружынай з Семяноўкі. У рамах шырока накрэсленага супрацоўніцтва адбыліся кулікі гарцэраў. І так, моладзь з Ляшукоў наведала гарцэраў у Семяноўцы, а потым прыймала гасцей у сябе. З такой нагоды адбыліся танцавальныя вечарыны, сяброўскія кантакты пры шклянцы гарбаты і пірожным, згадуйзгадулі, або мастацкія выступленні.

Гарцэрскай дружынай у Ляшуках апякуецца Рая Шымчукевіч.

**Ян Лушэцкі**
Ляшукі




**Дарагое Сэрцайка!**

Маю сямнаццаць год. Хаджу ў пачатковую школу ў сёмы клас. Восенню пазнаёмілася я з Ванем, які жыве ў суседняй вёсцы. У нашай вёсцы ўсе дзяўчаты такія маладыя як я і старэйшыя ходзяць на забаву. Забава ў нашай вёсцы бывае кожную нядзелю. Мяне таксама дзяўчаты і хлопцы просяць, каб я ішла на забаву. І вось аднаго разу я пайшла, і там пазнаёмілася з Ванем. Мы з Ванем часта сустракаемся. Ваня кажа, каб я кідала школу, бо і так не скончу. Але настаўнік кажа, каб я хадзіла ў школу, каб ішла далей вучыцца. Кажа, што мне дапаможа паступіць у школу, хоць вучуся дрэнна. Настаўнік яшчэ малады. Ён цяпер будзе жыць у нас на кватэры. Цяпер я пачала лепш вучыцца, зразумела, што навука заўсёды спатрэбіцца.

Парай, Сэрцайка, што рабіць, ці паслухаць Ваню і пакінуць школу, ці паслухаць настаўніка. Ваня мне лепш падабаецца. За параду буду ўдзячна. Парай Сэрцайка.

**Аня з Гайнаўшчыны**

**Дарагая Аня.** Безумоўна, што рацыю мае твой настаўнік. Ні ў якім выпадку ты не павінна кідаць школу. Бо па якой прычыне? З-за Вані? Ён жа ж не будзе зараз жаніцца з табой, а ты яшчэ замаладая выходзіць замуж. За пару год зразумееш патрэбу скончэння хоць бы пачатковай школы. Гэта неабходная патрэба. Пішаш, што настаўнік хоча дапамагчы табе паступаць у сярэднюю школу, хоць ты дрэнна вучышся. Відаць, ты маеш здольнасці да навукі, толькі непатрэбна замест аб кніжцы — у галаве думкі аб хлопцах. Зрэшты, калі ўзялася трохі сур'ёзней за навуку, дык і атрымала лепшыя вынікі. Што да настаўніка — памыляешся. Ён дапамагае табе напэўна не таму, што ты яму падабаешся, а таму, што выконвае свой абавязак, ён жа ж абавязаны дапамагаць сваім вучням. Дапамагае напэўна табе і іншым. Так што не дуры сабе галавы непатрэбнымі яшчэ справамі, а вазьміся за навуку.

Жадаю поспехаў
**Сэрцайка**

### У ЧЭХАХ АРЛЯНСКІХ КУЛЬТУРНА

Нядаўна ў вёсцы Чэхі Арлянскія быў арганізаваны «Клуб селяніна». Месціцца ён у колішнім будынку школы. Жыхары вёскі вельмі задаволены, што маюць дзе культурна правесці вольны час. У клубе можна пайграць у шашкі, шахматы і іншыя гульні, пачытаць газету, кніжку і выпіць кавы. Кіраўніком клуба з'яўляецца Вера Масальская. Прадаюцца тут таксама дробныя тавары, як мыла, сшыткі, алоўкі, цукар, якія дастаўляе сюды ГС у Кляшчэлях.

П. Д.

### ЗГП НА БЕЛЬШЧЫНЕ

Гарцэрская арганізацыя разам з інструктарамі налічвае на Бельшчыне 7144 члены. Бельскі гуфец мае 221 дружыну. У апошніх двух гадах наступіў значны ўзрост арганізацыі, умацаваліся гарцэрскія дружыны. Яны наведалі шэраг прадпрыемстваў і пазнаёміліся з працай рабочых.

Гарцэры з Браньска навязалі цеснае супрацоўніцтва з мясцовым ГС-ам, які дапамагае ў арганізаванні гарцэрскіх паходаў і экскурсій.

Падчас III-га алерту гарцэры здабылі 2363 спецыяльныя адзнакі МОСО і запазналіся са спосабамі самаабароны.

Усе дружыны шмат увагі прысвяцілі адзначэнню 25-ай гадавіны ППР. Было арганізавана 150 «камінкаў». У 49 дружынах адбыліся сустрэчы з дзеячамі ППР. Шмат дружын выдала спецыяльныя насценгазеткі.

50-ая гадавіна Вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі таксама вельмі ўрачыста адзначалася гарцэрамі. Падчас IV-га алерту было ўручана 188 адзнак МОСО. Зараз гарцэры Бельшчыны рыхтуюцца да ўрачыстага адзначэння 25-ай гадавіны Народнай Польшчы.

**Веслаў Фалькоўскі**
Бельск Падляшскі

### ДАКЛАДЫ

У лютым і сакавіку кіраўнік беларускага этнаграфічнага музея БГКТ у Белавежы Уладзімір Гацута выступіў з 7-мі дакладамі на тэмы: «Археалагічныя выкопкі польскіх вучоных у Балгарыі» і «Што гэта такое археалогія». Даклады выслухалі жыхары наступных мясцовасцей: Старога Корніна, Арэшкава, Чаромхі, Нараўкі, Новаберазова, Мора і Гайнаўкі. Даклады гэтыя карысталіся вялікім зацікаўленнем. Дыскусія займала больш часу, чым сам даклад. Прысутныя задавалі пытанні адносна працы археолагаў, адносна выкопак, якія вядзе прафесар Казімір Маеўскі ў Балгарыі. Закрануты былі пытанні спосабу датавання забыткаў, іх кансервацыі. На такіх сходах дакладчык закранаў справы ратавання даўнейшай культуры беларускага насельніцтва, у чым можа вялікую дапамогу аказваць грамадскі музей БГКТ у Белавежы.

Можна смела сцвердзіць, што людзі не толькі цікавяцца, але і патрабуюць такіх ведаў, таму што на кожным такім спатканні запрашалі слухачы дакладчыка на наступны прыезд з падобным дакладам.

**Віктар Бура**
Гайнаўка

### З ЦЭНТРАЛІ НАСЕННАЙ



**У Сакольскай цэнтралі насеннай цяпер людна. Сяляне прыязджаюць сюды па кваліфікаванае насенне многіх культур. Шмат гаспадароў атрымоўвае тут кваліфікаваную бульбу на насенне. МХ**

### ПРОСТА Ў БАСЕЙН

У Чыжах калісьці выкапана было грамадскім чынам аж пяць супрацьпажарных басейнаў. Спачатку ўсе басейны агароджаны былі плотам. Вады ў іх кожны раз меншала і рабілася толькі балота. Адзін басейн вельмі небяспечны, каля Васіля Лукашука. Напамінае ён вялікую квадратную яму. Выкапаны ў вельмі небяспечным месцы, амаль пры самай пабочыне вуліцы. З паўднёвага боку, якраз перад басейнам, канчаецца ходнік. І вось найгоршае здараецца вечарам, калі вуліца бывае неасветлена. Некаторыя людзі, ідучы ходнікам, трапляюць без ніякай перашкоды проста ў басейн. А гэта вядома, якая прыемнасць трапіць у балота, або ў зялёную ваду.

Я. М.
Гайнаўскі павет



# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Śmierć Belli" (franc.), 8—9. „Umarli milczą" (NRD), II s. 10—13.

**Дубіны**

„Panowie z kompleksami" (włoski), „Paryż—Warszawa bez wizy" (polski), 9—13.

**Нараўка**

„Żenia, Żenieczka, katiusza" (radz.), „Za naszą i waszą wolność" (polski), 9—13.

**Нарва**

„Między linami ringu" (USA), „Żywot Mateusza" (polski), 3—13.

**Чыжы**

„Niebo bez krat" (bułg.), „Miłosne kłopoty" (radz.), 9—13.

**Дубічы Царкоўныя**

„Intrygantki" (czeski), „Noc Iguary" (czeski), 9—13.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Film z czarującą dziewczyną" (rumuński), „Zaufaj mi Anno" (bułg.), 9—13.

**Орля**

„Ubranie prawie nowe" (polski), „Wehikuł czasu" (USA), 9—13.

**Райск**

„Jutro Meksyk" (polski), „Krew na śniegu" (jugosł.), 9—13.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Cudowna łamigłówka" (czeski, „Chleb i róże" (radz.), 8—11.

**Міхалова**

„Okno na Lunapark" (włoski), 8—9. „Trema" (USA), 10—11. „Kochać jak Romeo" (jugosł.). 12—13.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Na Rusi" (radz.), 8—9. „Zosia" (radz.), 10—11. „Krzyżacy" (polski), 12—13.

**Шудзялава**

„Głosuję na miłość" (jugosł.), „Pod karnawałową maską" (kubański), 9—13.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Winetou" (jugosł.), I, II s. 9—13.

**Новы Двор**

„Droga nad morzem" (bułg.), „Deszcz padał na szczęscie" (czeski), 12—13.

**Ліпск**

„Noc Iguary" (USA), „Smog" (włoski), 9—13.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia że zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 7028



 

